№ 89 (4034)

13 лістапада 2015 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*

*Якуб* КОЛАС

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ТЭМА ДНЯ



# Атрымаў працэнт у банку? Заплаці падатак

*Аляксандр Лукашэнка падпісаў дэкрэт №7 «Аб прыцягненні грашовых сродкаў ва ўклады (дэпазіты)».*

Згодна з дакументам, зараз укладчыкі будуць плаціць падаходны падатак (13 працэнтаў) з атрыманага даходу. Гэтая норма ўступіць у сілу з 1 красавіка 2016 года і будзе тычыцца большасці дэпазітаў. Выключэнне зроблена для рублёвых укладаў на год і больш, а таксама валютных укладаў на два гады і больш.

Акрамя гэтага, цяпер банкі будуць прапаноўваць кліентам так званыя адклікаНыя і безадклікаНыя ўклады. Апошнія будуць мець больш высокую стаўку, аднак іх можна будзе зняць раней за тэрмін заканчэння дагавора толькі са згоды банка.

Новы дэкрэт не будзе распаўсюджвацца на ўжо дзеючыя дэпазіты.

ХВАЛЮЮЧАЕ ПЫТАННЕ

## Ці могуць «замарозіць» дзеючыя ўклады?

Вадзім ІОСУБ, старшы аналітык кампаніі “Альпары”:

– Лічу такі сцэнарый малаверагодным. За апошнія гады былі няпростыя часы, дэвальвацыі, людзі масава забіралі грошы з банкаў. Але нават у такі складаны перыяд размова не ішла пра “замарозку” дэпазітаў. Хоць, безумоўна, на 100 працэнтаў ніхто нічога гарантаваць не можа.

## Падатак на працэнтны даход па дэпазітах у суседніх краінах




КАМЕНТАРЫЙ

Тарас НАДОЛЬНЫ:

## Разлік – на «доўгія» дэпазіты

*«Мы не ставілі на мэту прыцягненне дадатковых даходаў у бюджэт. Гэтыя сумы нязначныя,* – заявіў першы намеснік старшыні Нацыянальнага банка Беларусі **Тарас Надольны**. *– Любое новаўвядзенне на фінансавым рынку ўспрымаецца крытычна. Хутчэй за ўсё, на першым этапе, пакуль будуць тлумачыцца прававыя аспекты дэкрэта №7, пэўны адток можа быць. Але ў доўгатэрміновай перспектыве насельніцтва сыдзе ў «доўгія» дэпазіты».*

Барыс ЖАЛІБА:

## «Я не веру…»

– Відавочна, што дзяржава стымулюе людзей адкрываць доўгатэрміновыя ўклады, бо банкам неабходны “доўгія” грошы для спакойнага карыстання капіталам, – кажа эканаміст **Барыс ЖАЛІБА**. – З іншага боку, калі людзі не плацяць падатак на банкаўскія працэнты, то гэта таксама стымул для таго, каб яны неслі грошы на дэпазіты. Таму я не веру, калі гучаць заявы, што не ставіцца на мэту прыцягненне дадатковых даходаў у бюджэт. Народ і так з усіх бакоў абклалі ўсялякімі зборамі ды падаткамі, зараз вынайшлі яшчэ адзін. І пошукі працягнуцца.

ДАРЭЧЫ

У многіх краінах плацяць падатак з даходу па дэпазітах (напрыклад, у Германіі, Англіі, Іспаніі). Але ёсць і выключэнні. Скажам, у Эстоніі даход ад тэрміновых і накапляльных укладаў не абкладаецца падаходным падаткам.

Бываюць і нестандартныя варыянты падобнага падаткаабкладання. Вось у **Ізраілі** стаўку па розных дэпазітах вызначае падатковы орган ці ледзь не ў індывідуальным парадку. Гэта можа быць і 15працэнтаў, і 25.

ПАД ГРАДУСАМ



## Зіма на падыходзе

*Сіноптыкі абяцаюць мокры снег і моцны вецер.*

***У суботу 14 лістапада*** часам пройдуць дажджы. Ноччу і раніцай месцамі магчымы туман. Раніцай і днём па паўднёвым захадзе чакаецца ўзмацненне ветру парывамі да 15–20 м/с. Тэмпература паветра ўначы складзе +1…+7 ⁰С, у крайніх усходніх раёнах пры праясненнях будзе ад 0 да -2⁰С. Днём прагназуецца +4…+9 ⁰С.

***У нядзелю 15 лістапада*** на большай частцы краіны – кароткачасовыя дажджы, па паўночным усходзе магчымы мокры снег. Ноччу месцамі чакаецца ўзмацненне ветру парывамі да 15–20 м/с. Тэмпература паветра на працягу сутак +1…+7 ⁰С.

*«На пачатку наступнага тыдня ў Беларусь стануць паступаць больш халодныя паветраныя масы з Балтыйскага мора,* – кажуць спецыялісты Рэспубліканскага цэнтра па гідраметэаралогіі. – *У паўночна-ўсходніх раёнах можа быць мокры снег. Часам магчымы моцны парывісты вецер. У начныя гадзіны тэмпература паветра будзе змяняцца ад -1 ⁰С да +3 ⁰С па паўночным усходзе да +4 ⁰С да +7 ⁰С па паўднёвым захадзе. Днём будзе халадней таксама на паўночным усходзе.*

**Вера ВІР.**

КУЛУАРЫ

# Тры тузы ў рукаве

*Усе члены былога ўрада пакуль застаюцца на сваіх месцах, але хто-ніхто ўжо выносіць асабістыя рэчы з кабінетаў. Аляксандр Лукашэнка заступіў на пяты прэзідэнцкі тэрмін, а гэта значыць, што ён павінен прызначыць новы склад урада. Зразумела, што ў кулуарах у першую чаргу абмяркоўваецца, хто ў такі адказны, крызісны перыяд узначаліць Савет міністраў.*

### Варыянт першы

На гэтай пасадзе застанецца **Андрэй КАБЯКОЎ**.

Прыхільнікі гэтай версіі сцвярджаюць, што Кабякоў не нарабіў вялікіх памылак, не выйшаў, так бы мовіць, з ценю Аляксандра Лукашэнкі (як, напрыклад, **Сяргей Сідорскі** ці **Уладзімір Ярмошын**), таму ён можа захаваць пасаду. Тым больш што, нягледзячы на вялікую адказнасць, у беларускай іерархіі ўлады пасада прэм’ер-міністра, можна сказаць, тэхнічная: ён павінен браць пад казырок і выконваць загады з Адміністрацыі прэзідэнта. Хто бліжэй да Аляксандра Лукашэнкі, хто часцей нашэптвае яму на вуха тую ці іншую інфармацыю – той і мае сапраўдны ўплыў. А Кабякоў паспяхова спраўляецца з функцыямі дысцыплінаванага выканаўцы і на большае не прэтэндуе. Іншая справа, што вынікі гэтай працы мы бачым па зменшаных заробках і зменшаным працоўным тыдні на многіх прадпрыемствах. Хаця Аляксандр Лукашэнка, гэтак жа як і большая частка, упэўнены, што ўсё вышэйпералічанае не памылкі эканамічнай палітыкі, а наступствы сусветнага эканамічнага крызісу.

У той жа час хто-ніхто ўсё-такі прагназуе адстаўку Андрэя Кабякова. Кажуць, што Аляксандру Лукашэнку быццам не даспадобы кабінетная мяккасць Кабякова, які добра ўмее ўсё патлумачыць, але рэдка калі можа прапанаваць, што ж рабіць.

### Варыянт другі

Урад можа ўзначаліць банкір **Васіль МАЦЮШЭЎСКІ**.

Ён доўгі час працаваў у Нацыянальным банку намеснікам старшыні праўлення, потым узначальваў “БПС-банк”, апошнім часам быў першым намеснікам прэм’ер-міністра. Мае рэпутацыю вельмі даверанай асобы.

Прыхільнікі гэтай кандыдатуры сцвярджаюць, што Аляксандр Лукашэнка добра разумее, у якой складанай сітуацыі апынулася айчынная эканоміка, таму даверыцца можа толькі чалавеку, цалкам лаяльнаму і цалкам праверанаму. Гэта з аднаго боку.

А з другога боку, на першы план выйшла неабходнасць прыцягнення ў краіну знешніх пазык – грошай, якія дазволяць перажыць цяжкія часы. А ў такіх перамовах Мацюшэўскі – што рыба ў вадзе, як кажуць, ці не ўсё жыццё толькі гэтым і займаўся. Прычым як на заходнім накірунку, адказваючы за супрацоўніцтва з МВФ і прыцягненне інвестыцый у банкаўскую сферу, так і на ўсходнім, кіруючы тут, у Беларусі, фактычна расійскім банкам.

Мацюшэўскі цудоўна валодае англійскай мовай, скончыў Лонданскую школу бізнесу, кандыдат эканамічных навук. Але ён ніколі не меў ніякіх спраў з рэальнай вытворчасцю (калі не лічыць працу на будоўлях у складзе студэнцкіх атрадаў). І гэта сур’ёзны мінус яго-най кандыдатуры, бо ўсё ж такі размова ідзе не пра пасаду кіраўніка Нацбанка, а пра пасаду кіраўніка ўрада. Да таго ж за час працы ў “БПС-банку” ён стаў занадта ангажаваным у расійскі алігархічны бізнес. Што можа разглядацца не як плюс, а як вялікі мінус.

Дарэчы, калі прэм’ерам будзе прызначаны Васіль Мацюшэўскі, то мы маем шанц амаль нічога не даведацца пра дзейнасць урада. Ён маўчун, і такое ўражанне, што нават баіцца нейкіх публічных выступленняў ці каментарыяў. Нядаўна Мацюшэўскі павінен быў выступіць на “Кастрычніцкім эканамічным форуме” ў Мінску (і гэтага даклада беларускія і міжнародныя эксперты вельмі чакалі), але … не прыйшоў, паведаміўшы, што яго выклікалі ў “высокія кабінеты”. Можа, і так. І не выключана, што выклікалі ўзгадніць прызначэнне.

### Варыянт трэці

Намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта па эканамічных пытаннях, былы міністр эканомікі **Мікалай СНАПКОЎ** – гэта трэці з тых, каго таксама называюць у якасці магчымага прэм’ера.

Па ўладных кабінетах упарта ходзіць пагалоска, што самы вялікі плюс гэтай кандыдатуры … жонка. Мы гэтага адназначна сцвярджаць не можам, бо пасведчанняў аб нараджэнні не бачылі, але, па чутках, адзін з тых, хто найбольш прыбліжаны да Лукашэнкі, і Мікалай Снапкоў жанаты на родных сёстрах. Карацей, сваякі…

У любым выпадку Мікалай Снапкоў досыць даўно “ў сістэме”: працаваў у Магілёўскім аблвыканкаме, потым у Адміністрацыі прэзідэнта, затым – міністрам эканомікі, потым – зноў у Адміністрацыі прэзідэнта… Мае рэпутацыю чалавека адэкватнага і нават рыначніка. Ён сапраўды не аднойчы выказваўся аб неабходнасці сур’ёзных рэформаў беларускай эканомікі і гаварыў пра сур’ёзныя хібы існуючай сістэмы. Але літаральна падчас інаўгурацыі Аляксандр Лукашэнка не вельмі далікатна прайшоўся па тых сваіх дарадцах, якія “нашэптваюць пра рэформы”. Верагодна, у тым ліку і Снапкова меў на ўвазе. Так што паглядзім, як яно будзе.

Зразумела, што вышэйпералічанымі кандыдатурамі спіс прэтэндэнтаў на пасаду старшыні Савета міністраў не абмяжоўваецца. Сярод магчымых кандыдатур называюць і **Сямёна Шапіру**, і **Сяргея Румаса**, і нават чалавека, які сыходзіць з улады, ды толькі ніяк не сыдзе, – **Міхаіла Мясніковіча**. Наша “тройка лідараў” – гэта тыя, чые прозвішчы на сённяшні дзень называюцца найчасцей. Але рашэнне прыме Аляксандр Лукашэнка, і яно, як ужо не аднойчы было, можа быць самым нечаканым.

**Алена НОВІКАВА.**

ДАСЛОЎНА

**Аляксандр ЛУКАШЭНКА**

**(на нарадзе па пытаннях развіцця дзяржаўных органаў сістэмы забеспячэння нацыянальнай бяспекі):**

– Усе, хто жадае працаваць ва ўрадзе, павінны даказаць сваю здольнасць прэзідэнту, каб я вас не фармальна прызначаў, перапрызначаў. (…) Я не хацеў бы аўтаматам падпісваць указы аб прызначэнні, у тым ліку членаў урада, якія тут прысутнічаюць. Тады мной была пастаўлена задача: кожны на працягу трох-чатырох хвілін павінен выкласці сваё бачанне развіцця той ці іншай структуры. Будзе яна глыбока рэфармавана, ажно да злому некаторых аспектаў (я гэта абсалютна не выключаю і не выключаю), альбо яна будзе спакойна ўдасканальвацца, паколькі мы ўжо дастаткова глыбінныя рэформы здзейснілі на цяперашні час.



НЕЛЬЗЯ НЕ ВСПОМНИТЬ...



Виктор ГОНЧАР:

# «Это издевательство не только над законодательством, но и над здравым смыслом!»

*19 лет назад Служба охраны президента насильственно выдворила из служебного кабинета председателя Центральной избирательной комиссии **Виктора Гончара**, который публично заявил о том, что он не допустит фальсификации итогов голосования на референдуме.*



Напомним: на референдум 1996 года были вынесены вопросы о расширении полномочий президента и внесении изменений и дополнений в Конституцию.

***14 ноября*** 1996 года председатель Центризбиркома **Виктор Гончар** провел пресс-конференцию, на которой заявил, что не утвердит итоги референдума, если продолжится практика тотального нарушения законодательства. А ***15 ноября*** он был освобожден от должности президентским указом. На его место пришла член Центризбиркома из Бобруйска **Лидия Ермошина**.

Гончар рассказывал, что утром 15 ноября у него состоялся телефонный разговор с юридическим консультантом Бобруйского горисполкома госпожой Ермошиной, которая указом президента назначена на его место. Этот разговор, по словам В.Гончара, был безрезультатным; у него сложилось впечатление, что *«госпожа Ермошина, похоже, до сих пор находится в состоянии эйфории»* от президентского указа.

Председатель Конституционного суда **Валерий Тихиня** тогда встал на защиту Гончара. *«В целях соблюдения конституционной законности в стране рекомендую Вам отменить свой указ в отношении В.И.Гончара как изданный с превышением своих конституционных полномочий»,* – написал Тихиня в обращении к А.Лукашенко.

Вход в Центризбирком, который тогда находился на улице Октябрьской, 5 в Минске, блокировала Служба охраны президента. В свой кабинет Виктору Гончару пришлось прорываться через кордон президентских охранников. По словам В.Гончара, указ президента о его отставке окончательно перечеркнул легитимность референдума.

Сегодня читаешь его слова, сказанные уже после референдума, и даже не верится, что они были произнесены 19 лет назад…

*«84 процента граждан, принявших участие в плебисците, – это противоестественно высокая явка,* – сказал Виктор Гончар журналистам. – *Это еще одно свидетельство явной фальсификации итогов голосования... Я уж не говорю о курьезной цифре, которую подают официальные органы, – о количестве граждан, проголосовавших 24 ноября в период с 18 до 22 часов. В зимнее время, в слякотную погоду, на исходе дня в темное время суток за четыре часа проголосовало более 20 процентов избирателей, в то время как за 8 часов светового дня – около 30 процентов. Такого не может быть! Зачем же смешить людей?*

*Количество принявших участие в досрочном голосовании по отдельным регионам превысило 30 процентов. Это издевательство не только над законодательством, но и над здравым смыслом!*

*Не только в дни досрочного голосования, но и непосредственно 24 ноября ни на одном избирательном участке не было текстов проекта изменений и дополнений Конституции, предложенного на референдум парламентом. О каком свободном волеизъявлении, о каких равных возможностях в этих условиях может идти речь? Досрочное голосование превратилось фактически в голосование по месту нахождения граждан, особенно в сельской местности. Территориальные избирательные комиссии выезжали с бюллетенями, со списками избирателей прямо на предприятия, на фермы, и там в присутствии членов комиссии бюллетени заполнялись... Наконец, почти на всех избирательных участках велась не просто агитация за президентский проект Конституции – осуществлялось то, что вообще непостижимо ни с точки зрения законодательства, ни с точки зрения нравственности. В частности, в качестве наглядной агитации повсеместно использовались образцы заполнения бюллетеней – так, как выгодно президенту.*

*Я отмежевываюсь от всех этих грубейших нарушений. Пусть это прозвучит нескромно, но я горд тем, что мне удалось сделать до 14 ноября, пока меня не сместили с должности председателя Центризбиркома».*

…Вечером 16 сентября 1999 года **Виктор Гончар** вместе со своим другом бизнесменом **Анатолием Красовским** был насильственно похищен. Подробностей о том, что случилось, немного. В 2001 году начальник криминальной милиции генерал-майор Николай Лопатик написал секретный рапорт на имя тогдашнего министра внутренних дел Владимира Наумова, в котором были такие строки: *«16 сентября 1999 года Павлюченко* (бывший командир воинской части 3214 Дмитрий Павличенко, в рапорте Лопатика его фамилия написана с ошибкой. – **М.К.**) *провел акцию захвата и уничтожения Гончара В.И. и Красовского А.С. Место захоронения трупов Захаренко Ю.Н., Гончара В.И., Красовского А.С. – спецучасток последних могил на Северном кладбище…»*

**Марина КОКТЫШ.**

ЧУЛІ?

## Статкевіч прапануе...

«24 лістапада 1996 года ў Беларусі адбыўся рэферэндум, – *гаворыць Мікалай Статкевіч.* – Асноўныя пытанні рэферэндуму былі прызнаны Канстытуцыйным судом толькі кансультацыйнымі, пра што сведчылі адпаведныя запісы на кожным бюлетэні. Рэферэндум прайшоў са шматлікімі парушэннямі. Перад рэферэндумам, каб аслабіць супраціў перавароту, быў пазбаўлены сваёй пасады міністр унутраных спраў Юрый Захаранка, які заяўляў, што служыць найперш Закону. Ужо падчас рэферэндуму быў незаконна пазбаўлены пасады старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі Віктар Ганчар...”

*Мікалай Статкевіч прапануе ўшанаваць “памяць тых, хто ахвяраваў сваім жыццём дзеля свабоды Беларусі”.*

“Мы не ведаем, дзе пахаваны Юрый Захаранка і Віктар Ганчар, – *кажа Статкевіч.* – Таму, 24 лістапада, мы прыйдзем да месцаў, дзе яны працавалі, – да будынкаў МУС і ЦВК, каб запаліць каля іх знічы памяці аб забітых”.

*Збор жадаючых узяць удзел у акцыі намечаны каля ГУМа ў 18 гадзін.*

**Аліна ВЕТРАВА.**

